**В. Запарожац**

# Як памалявалі варана

Настаўніца ўвайшла ў клас усміхаючыся. У адной руцэ яна трымала класны журнал, а ў другой — нешта накрытае хусткай.

— Дзеці, — сказала яна, — сёння па плану ў нас павінна быць экскурсія ў лес, але на дварэ дождж, і я вырашыла правесці ўрок у класе. Вось прынесла вам жывы экспанат.

Настаўніца асцярожна ўзняла хустку. І ўсе ўбачылі клетку, а ў ёй чорную птушку. Птушка высунула з клеткі шэрую дзюбу і каркнула: „Ка-р-р-р!“ Дзеці засмяяліся. Настаўніца таксама. Птушка ў клетцы заскакала, забіла крыламі.

— Хто скажа, што гэта за птушка? — спытала настаўніца.

Вучні хорам закрычалі:

— Воран! Варона! Галка!

— А што нам скажа Андрэй! — звярнулася настаўніца да чорнавалосага сур'ёзнага хлапчука.

— Гэта грак, — упэўнена адказаў Андрэй. — Я бачыў іх у запарку. Яны вельмі карысныя птушкі.

— Правільна, гэта грачаня, — настаўніца выцягнула птушку з клеткі і пачаставала зярняткамі сланечніка. — Вось ён нам і паможа разабрацца ў блытаніне з воранамі, варонамі, галкамі і гракамі.

Грак — самая маленькая птушка з сямейства варонавых. Ён увесь чорны, толькі на дзюбцы ў яго яснейшая плямка. Гэта праўда: грак вельмі карысны. Ён знішчае насякомых і грызуноў — шкоднікаў палёў і лясоў.

Шэрую варону называюць так таму, што галава, крылы і хвост у яе чорныя, а рэшта цела — шэрая. Жыве варона ў бярэзніках, гаях, недалёка ад палёў, садоў і чалавечага жылля. Шэрая варона прыносіць не толькі карысць, але і шкоду. Яна дзяўбе ў садах фрукты, крадзе куранят, выпівае яйкі з чужых гнёздаў.

Галку таксама лёгка пазнаць. У галкі толькі лоб чорны, а ўся яна шэрая. Шыю, быццам хустка, пакрывае светла-шэрае пер'е.

— Самая вялікая птушка з сямейства варонавых, — расказвала далей настаўніца, — воран. У яго вялікія крылы. Дзюба моцная, як малаток, на самым канцы — вострая. Пер'е пад дзюбай нагадвае натапыраную бародку. Увесь ён чорны-чорны. Жыве часцей у горных мясцовасцях, радзей — на раўніне. Кормяцца яны рознымі ягадамі, зернем, насеннем, ловяць насякомых, яшчарак, дробных звяркоў. Яны таксама з'ядаюць мёртвых звяркоў і насякомых, таму лічацца добрымі санітарамі. Цікаўнасцю гэтых птушак з'яўляецца і тое, што яны робяць свае гнёзды на высокіх дрэвах і на скалах зімой, а птушанят высіджваюць у лютым і сакавіку.

А цяпер, дзеці, я раскажу вам легенду аб тым, як воран зрабіўся чорным.

Гэта здарылася тады, калі совы яшчэ лёталі днём і нікога не баяліся, а воран быў не чорны, а белы з жоўтымі крыламі. У адзін цудоўны дзень пайшоў вельмі гус-

ты і цёплы дождж. І ішоў ён так доўга, што змыў у птушак усе яркія фарбы. Усе птушкі зрабіліся белымі і перасталі пазнаваць адна другую. Такая зрабілася блытаніна, аж страх!

І вось тады сабраліся птушкі на паляне і дагаварыліся памаляваць сваё пер'е на розны колер. Галоўным цырульнікам назначылі саву. Усіх адразу, вядома, яна памаляваць не магла, таму птушкі прыляталі да яе па чарзе. І сава малявала іх у такі колер, які яны сабе самі выбіралі. Курапатка захацела быць рабенькай, фазан пажадаў мець залатое, чырвонае і жоўтае пер'е, шчыгол папрасіў зрабіць яму на грудках чырвонае сонейка.

Убачыў воран, якімі прыгожымі зрабіліся птушкі, і пазайздросціў ім. Прыляцеў да савы і кажа:



— Соўка, галубка! Пафарбуй мяне, калі ласка, у такі колер, каб ні ў кога такога не было.

— Пачакай, — кажа сава. — Твая чарга яшчэ не дайшла.

— Я вельмі спяшаюся. Мяне ў госці запрасілі. Не магу ж я туды з'явіцца белым, як снег. Мяне ніхто ж не пазнае!

Доўга думала сава, у які колер памаляваць ворана. Разоў дзесяць фарбы перамешвала. І ўсё ніяк дагадзіць ворану не магла.

— Я такіх птушак ніколі не бачыў, — капрызіў воран.

Тады сава раззлавалася і акунула ворана ў гаршчок з чорнай-чорнай фарбай. Толькі галава засталася наверсе, каб воран не ўтапіўся.

— Сядзі ціха, — сказала яна яму. — А пакуль што я іншых маляваць буду.

Адляцела сава ад ворана, а ён — бульк! — і нырнуў з галавой у гаршчок.

Вярнулася сава, выцягнула ворана з гаршчка ды кажа:

— Ну, цяпер табе роўных няма!

Падышоў воран да люстра, паглядзеў на сябе і крыламі развёў. З галавы да ног ён быў чорны-чорны, нават вочы і тыя чорнымі сталі.

— Ну, пачакай лупавокая! Я табе гэта прыпомню! Мы цяпер ворагі на векі вечныя! — крыкнуў воран.

Спалохалася сава не на жарты. І з таго часу ўдзень не лётае. Ворана баіцца. А воран так чорным і застаўся.

Цікавая легенда, дзеці?

— Цікавая! — хорам крыкнулі ўсе. — Яшчэ раскажыце пра ворана.

— Вораны вельмі асцярожныя, адважныя, разумныя птушкі. Але прыручаюцца даволі лёгка. Прыручанага ворана можна навучыць гаварыць асобныя словы. Але ў яго ёсць і брыдкія звычкі — ён сапраўдны злодзей. Няхай воран убачыць бліскучы прадмет, ён адразу яго схопіць і схавае, каб потым пабавіцца.

І тут празвінеў званок.

**В. Хомчанка**

# ЗЯЛЁНАЯ ПАЛАТКА

Уладзік і Пеця паехалі па арэхі рана, з першым цягнікам. Узялі з сабою два рукзакі. У адзін уціснулі палатку, у другі склалі ежу, біклагу, плашчы, і розныя рэчы, якія маглі спатрэбіцца ў дарозе і ў лесе. Больш за гадзіну іх вёз цягнік, потым добрых шэсць кіламетраў ішлі пеша і нарэшце трапілі ў той жаданы куток, дзе між старых бяроз і сосен густа кусціўся ляшчыннік.

Была сярэдзіна восені, па-летняму цёплая, запозненая, з сонечным празрыстым, як крынічная вада, днём. Навокал панавалі толькі два колеры: сіні — неба і вады, жоўты — лесу. А сярод гэтай суцэльнай сінечы і золата яркімі астраўкамі гарэла чырвань рабін, бузіны і баярышніку. Лес поўніўся мяккім шапаценнем лісця, якое густа сыпалася з дрэў.

Яны спыніліся на краі невялікай паляны, якую абступалі сосны і бярозы, тулячы пад сваімі кронамі малады ельнік і арэшнік. На самай жа паляне, перарэзанай ручаём, ні дрэўца, ні кусціка, адна толькі роўная шчотка травы.

— Я ўлетку тут быў з татам, — сказаў Пеця.

Уладзік азіраўся навокал, выглядаў кусты арэшніку.

Яны скінулі рукзакі, падышлі да ручая, сталі на каленцы і прыпалі да халоднай вады. Напіліся, змачылі валасы, пачалі глядзець у ручай як у люстэрка.

— Ну, хопіць, давай палатку ставіць, — азваўся Уладзік.

Паставілі палатку. А потым кінуліся да кустоў. Арэхі віселі густа, як кроплі ранішняй расы. Буйныя, жаўтаватыя, яны ледзь не вылузваліся з-пад шапачак, нібы клікалі да сябе.

— Гэта ж столькі арэхаў! — сказаў Уладзік.

Калі падышлі да палаткі, каля ўваходу ўбачылі вавёрку. Уладзік ляпнуў у далоні, і вавёрка ўскочыла на бярозу, прабегла да самай кроны і шуснула ў дупло. Высунуўшы адтуль мордачку, цікаўна сачыла за хлопчыкамі.

— Малайчына! — сказаў Пеця. — Запасы робіць.

— Давай і мы паможам ёй. Насыплем у дупло арэхаў.

— Напэўна, не залезеш, — усміхнуўся Уладзік.

Бяроза была высокая і роўная, як мачта. Пеця абшчаперыў ствол бярозы, палез. Вельветавыя штаны яго адразу пашарэлі ад бяросты. Лез ён учэпіста, хутка, прыпыняўся на нейкі момант, глядзеў уніз на Уладзіка, нібы пытаў: „Ну як, спрытна?“ і зноў лез.

Вавёрка не ўцякала, толькі, занепакоіўшыся, то высоўвалася з дупла, то хавалася, і чым бліжэй падлазіў Пеця, тым часцей вытыркалася вавёрчына пыска.

— Ату! — закрычаў Уладзік і пастукаў па дрэве палкай.

Пеця ўхапіўся за сук, сеў на яго. А вавёрка стаілася ў дупле.

— Вылазь, дурнічка, — сказаў ёй Пеця, а Уладзік зноў пастукаў палкай па камлі.

Пачакаўшы крыху, Пеця высыпаў у дупло жменю арэхаў. Арэхі праваліліся туды бясшумна, як у бяздонне. Ён высыпаў яшчэ жменю, і з дупла шугануў руды камячок, скокнуў на сук, адтуль

— на другі і спыніўся на вершалінцы.

— Не бойся, — заспакойваў яе Пеця.

Усе арэхі, што былі ў кішэнях, ён высыпаў у дупло і пачаў спускацца ўніз. Тут толькі хлопцы заўважылі вялікую чорную хмару, якая насоўвалася з захаду.

Хлопчыкі наламалі лапніку, разаслалі ў палатцы і, прысеўшы пад бярозай, трушчылі арэхі.

— Арэхаў куды больш, чым летась, — сказаў Пеця. — Мы з татам тады мала назбіралі...

Грымнуў гром. Маланка разанула неба ламаная вогненнай стралою, бліснула ў чорнай вадзе ручая. І часта, гулка, нібы ў бубен, забарабаніў па палатцы дождж.

Апоўдні навальніца сціхла, а дождж, роўны і бясконцы, не пераставаў сыпаць.

Пахаладала. Хлопчыкі апранулі курткі і выглянулі з палаткі. Над палянай вісела сетка дажджу.

— Пэўна не скончыцца сёння. Імжыць і імжыць, — сказаў злосна Уладзік.

— Ну і няхай! Мы ж у палатцы. Як партызаны.

— Сядзі, партызан, — буркнуў Уладзік. — Дождж табе трэба...

— А ты паслухай, як шапаціць.

Вецер шпурнуў у палатку жмут мокрых лісцяў.

— Я ўжо есці захацеў, — сказаў раптам Уладзік.

— І я, — Пеця адчуў, што і ён галодны. — Давай абедаць. Вось толькі вады прынясу.

Ён схапіў пустую пластмасавую біклагу і, уцягнуўшы шыю ў каўнер, прышпорыў да ручая. Вярнуўся ў палатку задыханы, устрывожаны.

— Уладзік, там нейкі чалавек! — выпаліў ён.

— Дзе?! — здзівіўся Уладзік. — Пакажы.

— Пад кустом. Бачыш?

— Бачу. Без пінжака. Газетай накрыўся.

— Намок, відаць, замёрз.

— Чаго ён тут?

— Адкуль я ведаю, — пацiснуў плячыма Пеця. — Можа, заблудзіўся. Давай у палатку паклічам.

— Давай. І нам будзе весялей, і чалавека выручым, — згадзіўся Уладзік. — А хто пабяжыць?

— Ды я ўжо, — сказаў Пеця, — адзін раз падмок, дык і другі не страшна.

Вярнуўся Пеця разам з незнаёмым. Убачыўшы Уладзіка незнаёмы сказаў:

— Добрага здароўечка.

З яго цякла вада. Белая, у зялёных плямах кашуля прыліпла да цела. Халодная дрыготка ператоргвала ўсё яго цела. Ён пачаў здымаць кашулю, каб выціснуць яе.

— Арэхі рвалі? — спытаў ён.

— Арэхі, — адказаў Уладзік.

Калі незнаёмы зняў верхнюю і споднюю кашулі, хлопчыкі ўбачылі ў яго пад лапаткай сіні шрам.

Пеця расправуў сваю куртку і накрыў ёю плечы і спіну незнаёмага.

— Ці не знойдзецца чым ногі ўкрыць? — пасля запытаў ён.

Уладзік аддаў яму плашч. Незнаёмы ахінуў ім ногі.

Нейкі час сядзелі моўчкі. Потым хлопчыкі прапанавалі незнаёмаму каўбасу, пячэнне. Незнаёмы з'еў толькі некалькі сухароў.

— Чаю выпіў бы, — сказаў ён. — Нашага, кубанскага.

— А вы не тутэйшы? — як бы абрадаваўся Уладзік. — Прыехалі адкуль?

(Працяг на стар. 7)

# ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

## ВУГРЫ

Вывучаць жыццё вугроў, загадкавых жыхароў падводнага царства, пачалі 2300 год назад, але да гэтага часу так і не змаглі дабіцца канчатковых вынікаў. Дарослы вугор жыве ў вадаёмах Еўропы на тэрыторыі ад Пячоры да рэк Чарнаморскага басейна, на берагах Міжземнага мора — у рэках Марока, Алжыра, Італіі і Францыі, на астравах Атлантычнага акіяна, у Англіі, Ірландыі і Ісландыі. У Беларусі і Прыбалтыцы ён ужо даўно стаў аб'ектам промыслу.

Вугор дасягае даўжыні да 2 метраў, важыць да 4-6 кг, хоць найчасцей сустракаюцца экземпляры значна меншыя. Гэта начны драпежнік, які днём хаваецца, часцей за ўсё зарываючыся ў глеісты грунт на глыбіні да 80 см, а часам і да 1,5 метра. У змроку ён выходзіць на паляванне. Асабліва актыўна палюе ў воблачныя і бязмесячныя ночы. Дробныя вугры харчуюцца лічынкамі водных насякомых, малюскамі, чарвякамі і ракападобнымі, а буйныя ловяць акунькоў, яршоў, плотак. Пераважна ноччу трапляюць у пасткі і на донныя вудачкі. Аднак бывае, што ловяцца і ўдзень, хапаючы ўсё, што лічаць прыдатным да яды.

Нягледзячы на выключную пражорлівасць, расце вугор марудна. Сезон адкорму цягнецца ўвесь цёплы час — з красавіка па лістапад. Зімою ён зарываецца глыбока ў глей і ўвесь халодны час знаходзіцца ў стане спячкі. Самцы, як правіла, меншыя за самак, максімальная іх даўжыня да 50 см, вага 200-250 грамаў.

Маладыя вугры ўваходзяць у вадаёмы з мораў. Штогод да вусцяў рэк набліжаецца велізарная чарада маленькіх (6-8 см) празрыстых рыбак, якіх называюць „шклянымі“, або шклавіднымі вуграмі. Яны падымаюцца ўверх супроць плыні, растуць, страчваюць празрыстасць і набываюць цёмную афарбоўку, якая, між іншым, залежыць ад характару і колеру таго грунту, дзе яны знаходзяцца.

Пражыўшы ў рацэ ад 5 да 25 год, вугры пачынаюць мігрыраваць у мора на нераст. Пры гэтым іх спіна робіцца амаль чорнай, бакі і бруха — серабрыстымі. Змяняецца форма сківіц — рыла выцягваецца, ніжняя сківаца рэзка выдаецца наперад, вочы значна павялічваюцца. Самцы мігрыруюць ва ўзросце 5-7 год, самкі — 8-15.

Месцам нерасту вугроў з рэк Еўропы аказалася Саргасава мора.



(Працяг са стар. 5)

## ЗЯЛЁНАЯ ПАЛАТКА

— З Армавіра. Ёсць такі горад на Каўказе. Чулі?

— А што вы тут, у лесе, робіце?

— У гэтым лесе, хлопчыкі мае, я ваяваў. — Чалавек паварушыў плячамі — усё грэўся. — А вось там, каля ручая, фашыст разануў па мне з кулямёта.

— Параніў?

— Ледзь выжыў. Гэтым летам надумаў сяброў праведаць. Яны тут недалёка жывуць.

Раптам стала незвычайна ціха. Ні пошуму дрэў, ні стуку дажджавых кропляў. Усе трое палезлі з палаткі.

Дождж перастаў. Пасвятлела. Хмары разарваліся, і ў вузкі сіні прарэз ударыў пучок сонечных праменняў, запаліўшы кожную дажджынку на траве і дрэвах.

— Ой, як добра! — уцешыўся незнаёмы. — Грэй, сонейка, грэй!

— А мы касцёр распалім, — падхапіўся Пеця.

Хлопчыкі пачалі зносіць ламачча, сухую папараць. І неўзабаве зашугала полымя, выстрэльваючы высока ўгору іскры і клубкі белага дыму.

Незнаёмы высушыў на агні кашулю, штаны, капялюш.

— Ну, браткі, я пайду. Харошыя вы мужчыны.

І пайшоў палянай, ні разу не азірнуўшыся.

Хлопцы, кожны думаючы пра сваё, глыбока адчувалі, што за гэтыя гадзіны пад навальнічным дажджом яны яшчэ больш здружыліся...

# ГУЛЬНІ

## „КУТОЧКІ“

Удзел у гульні могуць прымаць усе жадаючыя. Гульня заключаецца ў наступным. Кожны ігрок малюе вакол сябе трохвугольнік. Прычым „куточкаў“ павінна быць на адзін менш, чым ігракоў. Гуляючыя перабягаюць з аднаго трохвугольніка ў другі, і вось па сігналу вядучага ўсе павінны заняць „куточкі“.

Той, хто застаўся без месца, павінен што-небудзь зрабіць: заспяваць, патанцаваць або нешта расказаць. І гульня пачынаецца спачатку.

## Яны любяць спяваць



**Галіна Младзяноўская са Старыны. Фота Я. Целушэцкага.**

Наталля Кулік

# ПРА ХЛОПЧЫКА АЛЕСІКА

У маленькага Алесіка вялікае гора: згубілася літара „р“. А без яе ведаеце, як кепска? Як трактар не павурчыш, з аўтамата „тра-та-та“ не пастраляеш, нават у чапаеўцаў не пагуляеш, бо хіба ж чапаеўцы „ула“ — яны ж „Ур-ра!“ крычалі.

Вось такія справы. Хоча Алесік паклікаць сваю суседку Марынку пагушкацца на гушкалцы, а дзеці смяюцца:

— А дзе ж ты бачыў, — пытаюць, — на нашым двары малінку?

Не, зусім немагчыма абысціся без літары „р“. Дзеці дражняцца, а дарослыя яшчэ і маленькім называюць. А хіба ж Алесік маленькі? Яму ж аж тры гады!

І вырашыў Алесік, што б там ні было, знайсці літару „р“. Ходзіць па падворку, ва ўсе куточкі заглядае і так ціхенька прабуе: а раптам выйдзе! Хадзіў так ды хадзіў, аж раптам як пабяжыць да Марынкі:

— Ура! Я літару „р“ знайшоў!

— А дзе ж ты яе знайшоў? — пытаецца Марынка.

— А вунь там, кара гушкаркі, на той равачцы, дзе сядзяць Аронка з Рарысаю. Борш яны не скажуць, што Арэсік марэнькі!

— Алесік, — смяецца Марынка, — а дзе ж ты цяпер літару „л“ згубіў?

## Пазнаёмімся

Аліцыя Красько, Пасечнікі Вялікія 40, пошта 17-242 Арэшкава, Беластоцкае ваяводства.

* ✲ *

СССР, 344080, г. Ростов-на-Дону — 80, ул Российская 46, кв. 89. Пономарёвой Ольге. Дзяўчынка вучыцца ў 9 класе.

* ✲ *

СССР, 370069, г. Баку, ул. 11 Перевальная, дом 27. Араму Багдасаряну. Хлопчык вучыцца ў 9 класе.

* ✲ *

СССР, г. Ростов н/Д, 11 пос. Орджоникидзе, ул. Зеленодольская, 55/62, кв. 50. Чистяковой Ирине. Дзяўчынка вучыцца ў 9 класе.

* ✲ *

БССР, 220074, г. Мінск, вул. Харкаўская 78-3-45. Сідарэнка Аксане. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе і збірае паштоўкі.

* ✲ *

Галіна Каранецкая, вучаніца пятага класа, в. Навіны 2, пошта 17-212 Ласінка, Беластоцкае ваяводства.

## АДГАДАНКА



**На малюнку паказана, як з дванаццаці запалак скласці тры квадраты. Перакладзі запалкі так, каб атрымалася пяць квадратаў.**

**Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950** Białystok ul. Wesołowskiego 1